Цана асобнага нумару 20 грошаў.

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАША ПРАЎДА

Выходзіць два разы у тыдзень.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Адрэс [illegible] адміністрацыі: Вільня, Віленск[illegible] 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска 1 зл[illegible] месяц з дастаўкай да хаты [illegible]ніцы ўдвая даражэй. [illegible]эса 30 гр. | Нявпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |

№ 47 …льня, Серада 14-га верасьня 1927 г. Год I

**Камісар Ураду на м. Вільню на падставе прэсавага дэкрэту сканфіскаваў № 46 „Нашае Праўды“ з 10-га верасьня за зьмяшчэньне стацьці „Мірны пачын Польшчы ў Лізе Народаў“. Што „праступнае“ знайшоў у гэтай стацьці Камісар Ураду, — ніяк не згадаем!**

## Першыя ластаўкі.

Мы неаднакроць зварачалі ўвагу нашага грамадзянства на тыя агідныя рэчы, якія вытвараюць з літоўскімі працоўнымі масамі — літоўскія фашысты, захапіўшы, як ведама, уладу шляхам гвалту і пры дапамозе чужацкіх грошы. Мы падавалі факты бандыцкіх расправаў гэтых захватчыкаў улады, чыненых над барацьбітамі за волю і правы літоўскіх сялян і работнікаў — усё пад відам „барацьбы з камунізмам“. Сотні людзей кінены ў вастрогі. Цэлы рад ідэйных дзеячоў—папросту забіты камэдыйнымі судамі — па загаду ўраду фашыстаў. Сярод засуджаных на сьмерць былі і паслы на Сойм, людзі, далёкія ад камунізму. А вось цяпер ізноў ўцяклі ажно ў... Польшчу два соймавыя паслы: Поплаўскас і Кедыс, на якіх урад Вальдэмараса зрабіў праўдзівую аблаву, каб пасадзіць за краты, а мо' і казьніць...

Ясна, што літоўскія масы ня могуць спакойна сядзець і глядзець на ўсе гвалты, чыненыя фашыстамі,—ня могуць пагадзіцца з разгромам усяго арганізаванага жыцьця работнікаў, ня могуць сцярпець, каб ад імя народу гаспадаравалі ў краю слугі чужацкага капіталу. І вось мы ўжо маем першыя ластаўкі, якія весьцяць набліжэньне мамэнту вызваленьня Літвы спад улады захватчыкаў яе: *ў Літве пачаліся народныя паўстаньні.*

Побач мы падаем падробную інфармацыю аб рэвалюцыйным выбуху, які адбыўся ў м. Таўрогах. Тут мусім адзначыць той бясспрэчна пацяшаючы факт, што літоўскія масы—пасьля бязмала году фашыстаўскае гаспадаркі—*пачынаюць падыймаць галаву*, пачынаюць шукаць спосабаў вызваленьня спад улады фашызму.

Як апавядаюць літоўскія паслы, якія ўцяклі толькі-што з Літвы ў Вільню, фашыстаўскі тэрор дайшоў тамака найвышэйшае меры. Урад трымаецца выключна на войску. Толькі зусім малая жменька літоўскіх шовіністаў падтрымлівае фашыстаўскую ўладу. Селянін, работнік, навет дробны мешчанін і сярэдні інтэлігент—усе адносяцца да ўраду Вальдэмараса роўна варожа. І ў гэтым—парука, што—хоць і цаной мо' доўгага йшчэ змаганьня, цаной крывавых ахвяр і мучаніцтва—працоўныя масы Літвы скінуць фашыстаўскую ўладу і самі возьмуць у свае рукі кіраваньне жыцьцём сваей роднай зямлі.

Мы вітаем першае рашучае, хоць і няўдалае выступленьне літоўскіх барацьбітаў за волю працоўных. Вітаем тым больш шчыра, што жывем з імі побач, што ад вякоў наша і іх гістрыя была цесна зьвязана ў-вадно, што і ў будучыне нашае суседзкае сужыцьцё павінна быць абаперта на добрай згодзе і цесным супрацоўніцтве—перадусім на супрацоўніцтве гаспадарчым. Але апошняе магчыма толькі тады, калі і на ўсей Беларусі, і ў Літве ўложацца *аднолькавыя сацыяльна-палітычныя адносіны,* калі і тут і там панаваць будзе *воля працоўных.*

## Рэвалюцыйны выбух у Літве.

### Паўстаньне ў Таўрогах.

**9-га верасьня ў 4 гадз. раніцы група ўваружаных людзей лікам каля 60 пад камандай капітана запасу Маюса неўспадзеўкі захапіла будынак, у якім месьцяцца павятовыя ўлады, паліцэйскае ўпраўленьне і мястовая каманда. Капітан Маюс, выступаючы ў імя ВЫЗВАЛЕНЬНЯ ЛІТВЫ АД ЗАХВАТЧЫКАЎ УЛАДЫ, абвясьціў сябе камандантам места і ўзяў у свае рукі ўладу. З вастрогу былі выпушчаны палітычныя вязьні, якія далучыліся да паўстанцаў.**

**Паўстанцы занялі пошту, тэлеграф і аддзел Эмісыйнага Банку, узяўшы ў апошнім 2,000 літаў і 3,000 даляраў. Былі захоплены імі і склады аружжа.**

**У працягу 12 гадзін паўстанцы трымаліся ў месьце. Але вестка аб іх выступленьні была перададзена ў Клайпэду, скуль улада ўраз-жа выслала войска. Войска штурмавала места і заняло яго. У часе бітвы адзін з паўстанцаў быў забіты, некальні ранены. Аб стратах войска ўрадавае апавяшчэньне нічога ня кажа.**

**Перад наступаючым войскам паўстанцы прымушаны былі пакінуць места і адступіць у Юрборскі лес, які ўрадавае войска акружыла. Частку паўстанцаў узялі ў палон. Павадыр паўстанцаў Маюс уцёк.**

**Паводле газэтных вестак, паўстаньне мела быць паднята адначасна ў м. Оліце, але ўлада перашкодзіла гэтаму загадзя.**

### Што кажа ўрад.

Літоўскае ўрадавае агенцтва, якому трэба вельмі асьцярожна верыць, назвала паўстаньне „камуністычным“. Афіцыяльны камунікат глуха дадае, што ў паўстаньні, апрача камуністаў, прымалі ўчасьце і „некалькі сяброў іншых партыяў“... Паўстаньне арганізавана пад кіраўніцтвам нейкага капітана Маюса, які быў быццам выдалены з літоўскай арміі за шпіёнства... Але само агенцтва сцьвярджае, што гэты павадыр „камуністычнага паўстаньня“ належыць да партыі **народных сацыялістаў**...

Кап. Маюс скрыўся. За яго галаву літоўскія ўлады назначылі нагароду 5.000 літаў.

Спачатку паўстаньне мела значны пасьпех.—Паўстанцы хутка занялі ўвесь горад, захапілі ўсе яго ўстановы, узялі ў мясцовым аддзяленьні Дзяржаўнага Банку значную суму грошаў. Увечары ўлады, аднак, ужо апанавалі места ізноў, арыштавалі звыш 100 асобаў. Галоўныя павадыры быццам уцяклі заграніцу.

### Урадавы тэрор пашыраецца...

Літоўская прэса паведамляе, што ў сувязі з паўстаньнем у Таўрогах зроблены масавыя вобыскі і арышты ў іншых местах краю. Сярод арыштаваных ёсьць **паслы Сойму**, радныя местаў і інш... Агулам па ўсей Літве арыштавана больш за 1.000 асоб.

Як заявіў мін. унутраных спраў Літвы, сярод павадыроў, якія ўцяклі заграніцу, знаходзіцца пасол Сойму **сацыял-дэмакрат** Мікульскі, які быццам разам з іншымі, што ўцяклі, забраў з сабой 230 тысяч літаў, якія былі зрабаваны быццам у Банку ў Таўрогах. Мэта гэткай заявы—ясная: літоўскі ўрад хоча мець „падставы“ дзеля дамаганьня выдачы гэтых павадыроў паўстаньня, як звычайных злодзеяў...

**У радзе мест абвешчана ваеннае палажэньне.**

### Пасол Мікульскі — забіты!

Адзін з галоўных павадыроў паўстаньня, пасол Сойму Мікульскі (сац.-дэм.), аб „уцёках“ якога з „украдзенымі грашмі“ афіцыяльна налгаў фашыстаўскі ўрад,—як аказалася, **забіты тым-жа ўрадам.** У часе баёў у Таўрогах Мікульскі забарыкадаваўся ў сваім доме. Войска пачало абстрэліваць дом, і Мікульскі аказаўся забітым.

### Яшчэ адна ахвяра.

Адзін з чынных учасьнікаў паўстаньня, студэнт Баніс, які разам з сваімі таварышамі разброіў паліцыю ў Таўрогах, ранены ў баёх і ўзяты ў палон. Яму прышлося адрэзаць руку.

### Два літоўскіх паслы ўцяклі ў Польшчу.

Аб „камуністычным характэры“ паўстаньня неяк дзіўна—паміж іншым — сьведчыць тое, што з Коўны ў Польшчу ўцяклі, ратуючы свае жыцьцё, два паслы літоўскага Сойму — Паплаўскас і Кедыс, абодва — сябры **сацыял дэмакратычнай фракцыі Сойму**... Абодва паслы ясна кажуць, што ратавалі свае жыцьцё ад літоўскага ўраду...

Паслы, прыехаўшы ў Вільню, зьвярнуліся да ваяводы, каб дазволіў ім астацца у Вільні, як „азылянтам“. Ваявода даў на гэта сваю згоду.

### Што кажуць літоускія паслы.

Уцёкшы з Літвы ў Вільню, паслы Паплаўскас і Кедыс падзяліліся з прэсай інфармацыямі аб тым, што робіцца ў Літве,— у тым ліку і аб паўстаньні ў Таўрогах.

Вось, што зьмяшчае з іх слоў „Kur. Wil.“.

### Перасьледаваньне работніцкага руху.

У Літве фашыстаўскі ўрад зусім разграміў работніцкі рух. З агульнага ліку 18 прафэсіянальных саюзаў 12 зачынены ўладай — нібы-то за спагаданьне камуністам. Астаўшыяся 6 саюзаў існуюць толькі на паперы. Усякая праца іх спыняецца ўладай. Ад часу фашыстаўскага перавароту ня мог адбыцца ніводзін работніцкі сход на правінцыі — з прычыны забароны з боку ўлады. Толькі ў Коўне адбыліся два работніцкія сходы, але... ў салі было больш паліцыі, чым работнікаў! Кожын з чынных павадыроў работніцкага руху знаходзіцца пад нясупынным наглядам паліцыі. Як толькі ён выяўляе шырэйшую дзеяльнасьць, яго ўраз-жа арыштоўваюць, як „камуніста“. **У вастрозе яму прапануюць... выехаць з краю заграніцу!** Інакш—абяцуюць трымаць без канца. Большая частка работніцкіх дзеячоў гэтак была прымушана выехаць у Латвію, Фінляндыю, Нямеччыну. У такой атмасфэры немагчыма жыць і працаваць.

### Чаму паслы ўцяклі?

Нядаўна ў Коўну прыяжджаў старшыня міжнародавага бюро працы пры Лізе Народаў, Альбэр Тома, каб пазнаёміцца з палажэньнем работнікаў. Пасол Поплаўскас, як старшыня цэнтралі прафсаюзаў, даў яму патрэбныя інфармацыі. За гэта ўрад загадаў арыштаваць яго і ягонага супрацоўніка пасла Кедыса. Ад арышту яны ўхіліліся, бо, спадзяючыся бяды, не начавалі дома. Пасьля перайшлі праз граніцу—у Польшчу.

### Аб паўстаньні ў Таўрогах.

Паслы рашуча пярэчаць заявам ураду, быццам у Таўрогах паўстаньне штучна выклікалі камуністы. Не: гэта—стыхійны одрух народу. У Таўрогах — па думцы паслоў — паўстаньне выбухнула ў выніку распачатых паліцыяй вобыскаў і арыштаў сярод работніцкіх павадыроў, і гэта вывела масы з раўнавагі. Народ выступіў з аружжам у руках—супраць зьдзекаў і беспадстаўных арыштаў. Дый наагул **масы ў Літве—падмінаваны. Даволі аднае іскры, і можа ўзьняцца выбух з вялікшай сілай, чым у Таўрогах.**

### Тактыка фашыстаўскага ўраду.

Цяперашні ўрад увесь работніцкі рух агулам называе камуністычным. У часе перавароту павадыр яго, Гловацкіс, з сваім войскам проста вырэзываў цэлую масу людзей, абвінавачваючы іх у камунізьме. Урад трымаецца адно толькі на арміі і жменьцы літоўскіх шовіністаў, якія ў масах не прадстаўляюць ніякае рэальнае сілы. Селянін, работнік, ды навет дробны мешчанін і сярэдні інтэлігент варожа настроены адносна да ўраду.

---

Як бачым, мэтады дзеяльнасьці фашыстаў — усюды аднолькавыя, незалежна ад таго, у якім краю фашысты гаспадаруюць. Усюды йдзе барацьба перадусім з актыўнасьцяй масы, усюды перадусім разьбіваюцца масавыя арганізацыі, а павадыры масаў ідуць за краты. І ўсюды пад уладай фашыстаў добра жывецца адно толькі буйнейшай буржуазіі, або прадажнай каналіі!

## Паход проці беларусаведаў.

Як ведама ўсім, палітыка ўладаў у адносінах да Віл. Бел. Гімназіі была такая, што трэба дзівіцца, як Гімназія да гэтага часу яшчэ жыве, і ня толькі жыве, але і разьвіваецца і—будзем спадзявацца, — на злосьць ворагам нашым, будзе разьвівацца. Але я ня зьбіраюся шырока пісаць аб ёй, а абмяжуюся толькі адным характэрным мамэнтам.

Дазвол на адчыненьне Віл. Бел. Гімназіі, закладзенай з ініцыятывы нябожчыка Ів. Луцкевіча, атрымаў Бел. Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны на самым канцы 1918 году ад літоўскіх уладаў. Толькі нязвычайныя высілкі, пры бадай поўнай адсутнасьці срэдзтваў, далі магчымасьць фактычна распачаць працу ў гімназіі У часе савецка-польскай вайны гімназія, праўду сказаць, ня мела вялікіх прыкрасьцяў ад польскіх уладаў, бо тады быў „палітычны курс“, разьлічаны на здабыцьцё прыхільнасьці да сябе беларусаў, якая патрэбна была палякам, бо-ж вайна вялася галоўным чынам на тэрыторыі Беларусі. Але, як толькі вайна закончылася, курс палітыкі зьмяніўся, бо ўжо ня было чаго цырамоніцца з беларусамі, і гімназія адразу гэту зьмену пачула на сваей скуры. Знамянітая высылка з Вільні 33 беларускіх дзеячоў у Літву, з якіх паважная частка была вучыцялямі В. Б. Гімназіі, вельмі балюча адбілася на нашай школе ў 1921 г. Аднак, ледзь школа аправілася ад гэтага ўдару, як раптам новы ўдар наносіцца ёй на пачатку 1923/24 шк. году: ад выкладаньня адстраняюцца лепшыя беларусаведы-пэдагогі на падставе таго, што ня маюць фармальна выробленага польскага абыватэльства, г. ё.: Гарэцкі М., выдатны пісьменьнік і вучыцель **беларускай літэратуры** (напісаў шмат цэнных прац у гэтай галіне), Гарэцкая Л., яго жонка, таксама добрая **вучыцелька беларускай мовы** (аўтарка падручніка „Родны Край“), Багдановіч Г.—вучыцель **геаграфіі Беларусі**— усе, заўважце, **беларусаведы.** Улада добра ведала, каго выдаляе з гімназіі, бо ж беларусаведаў ня так лёгка знайсьці, а знача гімназія будзе ціха разбурацца...

Заўсёды таксама В. Б. Гімназія сустракала затрудненьні з дырэктарамі. Апошнія гады дырэктарам гімназіі быў гр. Астроўскі, энэргічны, выкваліфікаваны і стойкі ў нацыянальным сэньсе чалавек. І вось сёлета, у палове студзеня месяца яго пасадзілі ў Вронкі і да гэтага часу ня судзяць. Але гімназія ўсё ж-ткі і пасьля гэтых апэрацыяў працуе.

З пачаткам новага школьнага году ізноў найбольш балючым і цяжкім пытаньнем для гімназіі зьяўляецца падшуканьне **вучыцялёў - беларусаведаў,** бо-ж на 1927/28 год улада іменна ў гэты бок скіравала ізноў свой удар: дэфэнзыва (не куратарыум!) забараняе выкладаць 5 лепшым вучыцялём у гімназіі—**пераважна беларусаведам:** гр. Заморыну (**беларуская** літэратура), гр. Луцкевічу (**беларуская** літэратура), гр. Савіцкаму (гісторыя **Беларусі**), гр. Сіняўскаму (матэматыка), гр. Шырму (пяяньне). Апошні сваей руплівай працай — пасьля раду няўдалых спроб сваіх папярэднікаў—першы раз паставіў гімназіяльны хор на належную вышыню, і адыход яго ад працы пагражае развалам хору, што ізноў-жа б'ець балюча на нацыянальным характары і зьмесьце гімназіі.

Улада адначасна забараняе выкладаць **беларусаведам** і ў другой беларускай гімназіі—у Радашкавічах: гр. Каралю (**беларуская літэратура**) і гр. Гаўрыліку (**беларуская мова**).

Гэтак, як бачым, ідзе сыстэматычнае **выбіваньне з гімназіяў беларусаведаў,** і ня трудна дагадацца, якую мэту мае такая палітыка: г. ё. стараньне пазбавіць нашы гімназіі беларускага духу, беларускага характару, ды выдаліць з іх найбольш цэнных і здольных працаўнікоў, каб потым лягчэй было або зьліквідаваць, або спольшчыць іх—на манер карыкатурнай так-званай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі...

За што-ж нашы вучыцялі-беларусаведы пазбаўлены права працаваць у сваёй роднай гімназіі, гдзе яны ўжо многа лет аддавалі свае сілы разьвіцьцю і ўзгадаваньню моладзі свайго беднага, цёмнага, забітага народу? За тое, што, як сказаў адзін высокапастаўлены саноўнік: „zbyt zaangożowani w Hromadzie“. У чым выявілася гэтае „zaangażowanie“, дагэтуль ніхто ня ведае, бо якраз **пэдагогі-беларусаведы не належалі да Грамады.** Праўда, фармальна абвінавачваньня ўлада і не стаўляла гэтым вучыцялём, хаця яны ў свой час прасілі ўказаць ім конкрэтныя віны: высокі саноўнік сваю крылатую фразу аб „за-

